

# ГРУНВАЛЬД
## Grunwald




САКАВІК 1990 г. НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ № 2

## ЗЬМЕСТ

# ДА 72-х УГОДКАЎ БНР

Угодкі Акту 25-га сакавіка 1918 сталіся беларускім нацыянальным сьвятам, якое цяпер урачыста сьвяткуецца ўсім беларускім грамадзтвам у Вольным Сьвеце.

Незалежнасьць Беларусі была праўна прызнаная гэткімі гаспадарствамі: Украінай, Чэхаславаччынай, Аўстрыяй, Фінляндыяй, Польшчай, Турэччынай, Летувой, Латвіяй, Эстоніяй, Арменіяй і Грузіяй. Бальшыня краінаў сьвету прызнала фактычную незалежнасьць Беларусі.

СТАР. 2—3

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ
### ДВА АРТЫКУЛЫ

СТАР. 6

### ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

СТАР. 4



# ХРЫСТОС УВАСКРОС!


Жыровічы. Царква 1769 г.

# СА СЬВЯТАМ!

СТАР. 8

## КОНСТАНЦІЯ БУЙЛО

### Люблю...

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожэм нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю рэку, што свае воды
Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасьць берагаў песчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.

Люблю вясну, што ў кветкі, ў зелень
Прыстроіць цэлую зямлю;
На гнёздах буслаў клекатаньне
І сьпеў жаўронačка люблю.

Люблю гарачу сьпеку лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зігаціць агнём

І восень сумную люблю я
І першы звон сярпоў і кос
Як выйдуць жнеі збожэ жаці,
А касары — на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў вузор,
І белы сьнег, што ўсё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.

Люблю ў пагодную я ночку
Да позна на двары сядзець,
Сьлядзіць за зорачак дрыжаньнем,
На месяц залаты глядзець.

Люблю, як сонейка заходзіць,
І берэг хмаркі залаціць,
Вячорнага як голас звону
К нам з ветру хваляю ляціць.

І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца—плывуць.

Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе с шчасьцем першым я спазналась
І з гора першаю сьлязой.

"Курганная кветка". Вільня. 1914 г.



## АНАТОЛЬ СЫС



### ПЕСЬНЯ ПРА ЎВАСКРАШЭНЬНЕ ВЕРШНІКА

Дайце яму ўрэшце адпачыць
у цяні харугваў ды штандараў,
дайце, дайце сон яму дажыць,
сон — нібы палон у янычараў,

ён ня спаў тры ночы і тры дні
і цяпер, як зоркі лічыць кроплі:
у пагоні страчанай крыві,
у палоне — вартавога крокі.

Дайце яму ўрэшце адпачыць,
кат яго даўно адпачывае,
дайце, дайце сон яму дажыць,
сон — як рана у грудзёх жывая,

ён ня спаў тры ночы і тры дні,
пад харугвамі яго прыспалі
кулі-кулі, быццам авадні,
зьнічкі-зьнічкі ў марсавым мэталe.

Ды не Марс — Ён шоламам сьвяціў.
Меч, як знак бясьсьмерця на далоні.
Ён ня спаў тры сьмерці, тры жыцьці...

...І ўваскрэснуў вершнікам Пагоні!

* * *

Мой Дняпро тры тысячы гадоў
косьці круціць у вірах барвовых,
аж дасюль бруіцца з ранаў кроў
на ягоных змучаных рамёнах,

мроіцца адвечнымі віры
людзям зь берагоў і птушкам зь неба,
быццам бабілёнскія муры
ў плашчаніцах воблачнага зрэб'я,

нават ноч баіцца зазіраць
у віры —
здаецца пад карчамі
крывічы прыкутыя ляжаць
да гармат расейскіх ланцугамі,

а на барву змрочнае ракі
ўзыходзяць чарапы, як поўні,
і на іх, нібы на маякі,
праз вякі
брыдуць з палону коні.

Рэха капытоў майго каня
працінае вір адчаем лютым —
толькі не сустрэну яго я,
ланцугамі да гармат прыкуты.

## ЯНКА ЗОЛАК

БЕЛАРУСКІ ПАЭТ НА ЭМІГРАЦЫІ

### МАЦІ МАЯ — БЕЛАРУСЬ

Белая, сьветлая, чыстая,
Мой галасісты жаўрук!
Ты — мая доля вячыстая,
Маці мая — Беларусь.

Летняй ўлевай купаная,
Першага сьнегу бялей.
Толькі адна ты каханая,
Цэлага сьвету мілей.

Сьветлай расою абмытая,
Многа ты ведала скрух.
Сынам сваім не забытая,
Маці мая — Беларусь.

Доля твая не зглелая,
Ты яшчэ ўбачыш зару,
Сьветлая, чыстая, белая
Маці мая — Беларусь.

З.Ш.А.

### ГОЛАС НАРОДНАГА ГНЕВУ

І ў часе упальнай сьпякоты,
І ў час навальніцы-улевы,
Я чую з Радзімы грымоты
І голас народнага гневу.

Гучыць ён у звоне кайданаў,
Якімі скут Край мой айчысты;
У шуме лясоў нясьціханым
І ў шоляху ніў каласістых.

Гучыць ён прыцішаным звонам
І сумнаю жніўнаю песьняй.
Але набярэ ён разгону
І з новаю сілай ўскрэсьне.

З.Ш.А.

## ЗЬНІЧ

### ІСНАЕ

Сонца, Восеньскі бацькаў падворак.
Пад нагой — шамаценьне лісьця.
Ў сэрцы, поўным лагоды і зорак,
адкрываецца Тайна Жыцьця.

Праз Сусьветы, праз род чалавечы,
праз народы — як іх ні душы! —
прарастае імгненьне — у Вечнасьць
у дрыготкім трамценьні душы.

Усьвядоміўшы боль прарастаньня,
дух, дасланы у сьмерць, — уваскрос.
Горыч дольнай пакуты растане...
Адкрываецца сэрцу
Хрыстос...



# АБВЕШЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ




## Першая Сусьветная Вайна – Усебеларускі Кангрэс

У жніўні 1914 году выбухла сусьветная вайна. Нямецка-расейскі фронт, які урэшце спыніўся на беларускіх землях, перарваў лучнасьць і супрацу між галоўнымі цэнтрамі беларускага адраджэнскага руху – Менскам і Вільняю. Вільню занялі Немцы, тымчасам як Менск застаўся пад Расейцамі.

Рэвалюцыя 1917 году ачысьціла тэрыторыю Беларусі ад царскіх урадоўцаў. Новыя беларускія арганізацыі й палітычныя партыі ўзьнікалі, як грыбы па дажджы. 18-га сьнежня ўсе яны згуртаваліся ў Вялікай Беларускай Радзе й склікалі Ўсебеларускі Кангрэс у Менску.

У Кангрэсе прынялі ўдзел 1872 дэлегаты, якія рэпрэзэнтавалі ўсю беларускую этнаграфічную тэрыторыю – ад Беласточчыны да Смаленшчыны. Дэлегаты абралі Раду Кангрэсу, якой даручылі праводзіць нарады; праф. Іван Серада быў абраны старшынёй Кангрэсу. Пры разглядзе найважнейшага пытаньня – палітычнай будучыні Беларусі – удзельнікі Кангрэсу падзяліліся на два лягеры – прыхільнікаў поўнае незалежнасьці й прыхільнікаў шчыльнае сувязі з Расеяй у форме фэдэрацыі. Незалежнасьці дамагаліся, галоўным чынам, беларускія грамадзкія дзеячы, жаўнеры, студэнты й настаўнікі; яны былі ў бальшыні й пастанавілі абвесьціць аўтаномную беларускую дэмакратычную рэспубліку.

Расейская камуністычная партыя, хаця й была запрошаная, ўдзелу ў Кангрэсе ня брала. Камуністыя ўсё-ж такі ўважна сачылі за працай Кангрэсу. Убачыўшы, што беларускія незалежніцкія ідэі перамагаюць, яны пастанавілі разагнаць Кангрэс збройнай сілай. Гэта ім удалося зрабіць пры дапамозе расейскіх франтавых адзінак, што стаялі ў Менску й былі пад моцным камуністычным уплывам.

## Абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі

Вясною 1918-га году нямецкая армія ўзнавіла свой наступ на ўсход, выпіхаючы расейскіх камуністых зь Менску і з усяе цэнтральнае Беларусі. Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу ў сваёй *"Першай Устаўной Грамаце* да народаў Беларусі" абвясьціў сябе часовай уладай у Беларусі й забавязаўся як найхутчэй склікаць Усебеларускі Ўстаноўчы Сойм.

Адначасна быў створаны *Народны Сакратарыят* Беларусі дзеля ўжыцьцяўленьня й абароны палітычнае праграмы, прынятае Кангрэсам. Народны Сакратарыят і Рада Кангрэсу сталіся першым беларускім урадам і адначасна парлямэнтам.

9-га сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу выдаў *"Другую Ўстаўную Грамату"*, у якой быў акрэсьлены дзяржаўны лад Беларусі, правы ейных грамадзян і вольнасьці пражываючых у Беларусі народаў:

*"Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.*

*– Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склiканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.*

*– Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.*

*– Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.*

*– У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.*

*– У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.*

*– У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускае Народнае Рэспублікі.*

Ідэя незалежнасьці Беларусі знаходзіла ўсё большае падтрыманьне ў народзе. На сваім паседжаньні 24-га й 25-га сакавіка 1918 году, Рада Кангрэсу, званая цяпер *Радаю Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР)*, выдала *"Трэйцюю Ўстаўную Грамату"*, якая абвесьціла БНР незалежнай дзяржавай:

*Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.*

*Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.*

*БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.*

*БНР пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.*

*Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.*

*25-га сакавіка 1918 г. Менск.*

*Рада БНР".*

КАРОТКІ АГЛЯД ГІСТОРЫ БЕЛАРУСІ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА»
КЛІУЛЕНД–НЬЮ ЁРК
1968 г.

# ДА 72-х УГОДКАЎ БНР



## 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Беларускім Культурным таварыствам "Грунвальд" былі адзначаны 72-я ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР).

На ўрачысты сход, які адбыўся з дазволу Эстонскіх уладаў 25 сакавіка 1990 г. а 12 гадзіне дня ў Таліне, на выспе Хар'ю, сабраліся прадстаўнікі таварыства "Грунвальд", госьці з Украінскага таварыства ды значная колькасьць сьвядомых беларусаў з Таліна і яго навакольля.

Актывісты таварыства "Грунвальд" Лявон Валуй і Сяржук Сотчанка расказалі прысутным аб умовах, у якіх адбылося абвешчаньне БНР і аб уздыме Беларускага Адраджэнскага руху пасьля Кастрычніцкага перавароту ў Расіі ў 1917 годзе.

Былі зачытаны "Другая Ўстаўная Грамата" Рады Кангрэсу і "Трэйцяя Ўстаўная Грамата" Рады БНР, якая абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Усё навакольле было ўпрыгожана бел-чырвона-белымі сьцягамі, луналі жоўта-блакітны Ўкраінскі і сіня-чорна-белы Эстонскі нацыянальныя сьцягі.

Былі выстаўлены транспаранты ў падтрымку незалежнасьці Эстоніі, Беларусі і Літвы.

Тацьцяна Кучынская чытала беларускія вершы, разам сьпявалі беларускія песьні.

Зь вялікім болем гаварылі прысутныя аб становішчы ў Беларусі, аб тым, як ад Чарнобыльскага генацыду хварэюць і паміраюць людзі, аб тым, да якой роспачы і адчаю прывеў беларускі народ гэтак званы "Развитой социализм".

Гаварылі аб тым, як марудна ідзе нацыянальнае адраджэньне на Беларусі і аб пасіўнасьці беларускай інтэлігенцыі, значную частку якой ўдалося ўцягнуць бюракратыі ў "барацьбу" з сусьветным жыдамасонствам, каб ня даць ей магчымасьці накіраваць свае сілы на стварэньне нацыянальнага Адраджэнскага руху на Беларусі.

Як выказваліся многія, трэба меньш займацца цкаваньнем "Вандэі" а самааддана і самаахвярна працаваць на адраджэньне нацыянальнае сьвядомасьці ў Беларусаў.

Без нацыянальнае самасьвядомасьці няма будучыні ў нацыі а без нацыянальнае кансалідацыі ніколі ня будзе і незалежнасьці.

ЖЫВУЦЬ 72-Я ЎГОДКІ БНР!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Рэдакцыя




Вчера около четырех часов дня внимание прохожих проходивших по Нарвскому шоссе, привлекли двое молодых людей с плакатами в руках. Это были члены белорусского общества «Грунвальд», действующего при Фонде культуры Эстонии. На плакатах было написано приглашение белорусам собраться 25 марта в 12 часов на горке Харью. В этот день в городах Белоруссии и Прибалтики состоится акция солидарности, посвященная годовщине независимой Белорусской Народной Республики, провозглашенной 25 марта 1918 года. БНР просуществовала меньше года. Но национальная история живет в народной памяти. Место и время для демонстрации плакатов было выбрано не случайно — конец рабочей смены и как раз напротив НПО РЭТ и «Эстикабеля», на которых работает много белорусов.

Фото Мати Хийса.

Вечерний Таллинн 23.03.90 г.






Здымкі з мітынга. Талін. 25 сакавіка 1990 г.

## Жыве Беларусь!

# REC PUBLICA

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК



У гэтым слове — рэальны сэнс палітычнай мэты і дзяржаўнай арганізацыі, да якой аб'ектыўна імкнецца наша грамадства. Бо рэспублікі на сёньняшні дзень у нас няма. Існуе толькі прафанацыя рэспубліканскай структуры і партыйна-бюракратычны прыгнёт. Рэспубліка — ад лацінскага Rec publica, што азначае — грамадзкая (агульная) справа. Гэта такая форма дзяржаўнае ўлады, пры якой ўлада ў дзяржаве належыць выбраным на адпаведны тэрмін органам улады. Істотна, каб гэтая ўлада была рэальнай, адлюстроўвала волю народа (грамадзянаў краіны) і абапіралася на дэмакратычнае права.

Своеасаблівай шляхецкай рэспублікай была Рэч Паспалітая (назва ізноў жа ад rec publica) — Федэратыўнае ўтварэньне, у якое ў выніку Люблінскай уніі 1569 аб'ядналіся нашая старажытная дзяржава Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае ("Княства") і Польшча ("Карона"). У рэспубліканскім характары Рэчы Паспалітай было шмат шляхецкага анахранізму і ўнутранай няўстойлівасьці, якая вынікала з розных інтарэсаў складовых яе частак. У канцы 18 ст. гэтая дзяржава была разарваная паміж трыма імперыямі — Расійскай, Прускай і Аўстра-Венгерскай. З таго часу пачаліся пакутлівыя мытарствы Беларусі і Літвы ў складзе Расійскай імперыі.

Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, што асабліва ўзмацніўся ў пачатку 20 ст., прывёў да ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана на Зьвеставаньне (Дабравешчаньне) 25 сакавіка 1918 года. Гэты вялікі, важнейшы ў нашай навейшай гісторыі акт адбыўся ў вельмі неспрыяльных умовах нямецкай акупацыі Беларусі, І-й сусьветнай вайны, бальшавіцкага перавароту ў Расіі, дзе шырокай хваляй ішоў тэрор і дэмакратыя ўжо практычна сканала, так і не нарадзіўшыся. Нямецкія акупанты і потым бальшавікі не прызналі БНР. У іх былі свае інтарэсы на Беларусі. З адыходам немцаў з канцы 1918 года, прыходам бальшавікоў і акупацыяй Беларусі Чырвонай арміяй Урад Беларускай Народнай Рэспублікі вымушаны быў эміграваць. Сьледам за чырвонаармейскімі фармаваньнямі на Беларусь прыехалі члены насьпех створанага ў Маскве (са згоды і пры пасярэдніцтве Ул. Леніна) марыянетачнага беларускага ўраду, які І-га студзеня 1919 года аб'явіў аб стварэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, хаця Рэспублікай яна ў поўным сэнсе не зьяўлялася ад самага пачатку.

Бальшавікі не зьбіраліся дазваляць утварыцца якой бы там ні было беларускай дзяржаве. Аднак зьяўленьне БНР вымусіла іх памяняць планы і зрабіць палітычны манеўр — пайсьці на стварэньне "савецкай контрдзяржавы". Гэты крок у рэшце рэшт меў станоўчы сэнс, хоць бальшавікі з такой "рэспублікай" ніколі сур'ёзна не лічыліся. Пра гэта сьведчыць і той факт, што пасьля Рыжскага замірэньня 1921 года, якое было ажыцьцёўлена без удзелу беларусаў (і таму, можна лічыць, ня мела для нас юрыдычнае сілы), беларуская зямля была ўвогуле падзелена напалам. Заходняя частка з гарадамі Вільняй, Гародняй, Берасьцем, Беластокам, Пінскам, Слонімам, Баранавічамі, Наваградкам, Лідай, Браславам і інш. была аддадзена Польшчы. Беларуская ж савецкая рэспубліка засталася на маленькім лапіку нацыянальнай тэрыторыі ў шэсьць паветаў вакол Менска, бо ўсходнія абшары — Смаленскую і Бранскую вобласьці, Віцебскую і Магілёўскую (у якую ўваходзіла таксама Гомельшчына) забрала Расія. Потым, каб вярнуць іх, прыходзілася кожны раз даказваць іхнюю беларускую прыналежнасьць. А апошнія доказы наконт вяртаньня беларускіх частак Смаленскай, Бранскай і Пскоўскай абласьцей так і патанулі дзесьці ў 30-х гадах, у аналах рэпрэсіўных ведамстваў, зьніклі разам з людзьмі, што рушыліся пра лёс нацыі.

Толькі ў першай палове 20-х гадоў у час НЭПу ў БССР зьявіліся абмежаваныя персьпектывы нацыянальнага разьвіцьця. Нацыянальна-культурны і гаспадарчы ўздым неўзабаве аднак спыніўся. З 1927 года, значна раней, чым паўсюдна ў СССР, на Беларусі пачынаюцца рэпрэсіі і расстрэлы. На гэтым савецкая рэспубліка скончылася разам з усялякім гуманным сэнсам улады, засталася толькі фармальная назва.

Перад цяперашнім пакаленьнем грамадзянаў Беларусі стаіць вялікая гістарычная задача — стварыць незалежную дэмакратычную Беларускую Рэспубліку, якая будзе абапірацца на гуманныя прынцыпы, справядлівае права і аб'ядноўвацца на аснове нацыянальнага адзінства, бо такое гаспадарства найбольш жыцьцёвае, адпавядае нашым гістарычна-культурным традыцыям, нашаму народнаму разуменьню і натуральнаму праву. Менавіта з гэтае жыцьцёвае асновы пачыналася Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918 годзе. Менавіта таму лунали над ёй гістарычныя колеры бела-чырвона-белага нацыянальнага сьцяга, які зноў ўзьняло нашае пакаленьне.

Гісторыя ж БССР паказала, што дзяржава, у аснову якой пакладзеныя ня нацыя і нацыянальная воля аб'яднаных грамадзянаў, а класвыя прыкметы, фальшывыя сацыяльныя ілюзіі і ўтапічная ідэалагічная дактрына — такая дзяржава абарочваецца супраць людзей, глуміць культуру, зямлю і народ, такое гаспадарства ня можа быць дэмакратычнай гуманнай рэспублікай.

Характэрна, што і сімволіка БССР ня мае ніякіх адносінаў да гісторыі Беларусі, да беларускай нацыі і традыцыяў культуры, да законаў класічнай геральдыкі, нарэшце. Дзяржаўны сьцяг БССР шмат разоў зьмяняўся. Апошні існуе з 1952 года і зьяўляецца тыповым безгустоўным прыкладам так званай "варварскай" сімволікі і геральдычнага безкультур'я. У гісторыі ён застанецца хіба як музейны экспанат дзеля задавальненьня цікавасьці нашчадкаў і ілюстрацыі таго, чаго ня трэба рабіць і як нельга жыць.

Цяперашняе становішча зь сімваламі ў БССР адэкватна адлюстроўвае палітычныя дачыненьні паміж ідэалагічнай дактрынай і нацыянальнай культурай. "Барометр сьцягу" спрацоўвае вельмі дакладна. Яго прыкметы такія. Калі ўбачым, што паўсюдна відаць нашы нацыянальныя сьцягі побач з дзяржаўнымі і міліцыя з апаратчыкамі не кінецца іх зрываць, можна сказаць як заўсёды — "Жыве Беларусь!". Калі ж убачым, як разгортваецца пад сонцам адзіны наш нацыянальны, гістарычны і дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг — гэта знак, што мы на шляху. І тады можна сказаць — "Жыве Рэспубліка!" Бо як ня можа суіснаваць сьвятло і цемра, так і Рэспубліка ня можа быць напалавіну. Таму — Жыве Рэспубліка!

# ПАЎСТАНЬНЕ І РЭЛІГІЯ




Памяць пра паўстанцаў 1863 г. болем адгукаецца ў душы кожнага, каму дадзена спасьцігнуць усю трагічнасьць іх лёсу. Трагізм іх жыцьця не толькі ў тым, што яны, усьведамляючы наканаванасьць паражэньня, ішлі на сьмерць, не толькі ў жорсткай расправе, якую ўчынілі над імі вялікадзяржаўныя ўлады. Трагізм у тым, што потым урады розных колераў намагаліся выкрасьліць з памяці беларусаў калі не само паўстаньне, дык праўду пра яго.

Але да ўзьлёту духоўнасьці, самаахвярнасьці, веры ў Бога і Беларусь, што дасягнулі паўстанцы, ва ўсе часы імкнуліся людзі, не абыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны. І таму дзяды перадавалі памяць пра 1863 год сваім унукам, і кожнае новае пакаленьне па-новаму асэнсоўвала шлях паўстанцаў да вышыняў Веры і адданасьці.

Асабліва хацелася б сказаць пра ўдзел у паўстаньні беларускага сьвятарства. Як можна пазбыцца імёнаў сьвятароў, якія склалі свае галовы на ахвярнік Бацькаўшчыны ў 1863 г.:

**Кс. Станіслаў Імора,** вікары з Жалудка, расстраляны ў Вільні 3 чэрвеня 1863 г.

**Кс. Адам Фалькоўскі**, пробашч парафіі Яшун, расстраляны ў Лідзе 22 чэрвеня 1863 г.

**Кс. Ізідор Нарэйка,** вікары з Мусятаў, расстряляны ў Тэльшах 10 ліпеня 1863 г.

**Кс. Ігнат Рузго,** расстраляны ў Дынабургу 28 чэрвеня 1863 г.

**Кс. Фэлікс Юшкевіч,** пробашч парафіі Зэльняны, павешаны ў Тэльшах 10 ліпеня 1863 г.

**Кс. Тафіль Качкоўскі**, вікары Новамейскі, расстраляны ў Коўне 24 жніўня 1863 г.

**Кс. Антон Мацкевіч**, з Тэльшаўскага біскупства, павешаны ў Коўне 28 сьнежня 1863 г.

І шмат іншых, што загінулі або былі высланыя ў Сібір.

Яны хавалі зброю, даглядалі параненых, дапамагалі грашовымі сродкамі, але самае галоўнае — яны натхнялі паўстанцаў на змаганьне з царскім уціскам, былі правадырамі барацьбы за духоўнае аднаўленьне Беларусі. Але трэба ведаць, што да 1839 г. абсалютную большасьць хрысьціянскага насельніцтва Беларусі (звыш 80%) складалі ўніяты. Праваслаўных тады боло не болей за 5—6%, астатнія каталікі і людзі іншых веравызнаньняў. Уніяцтва сталася да таго часу фактычна агуальнабеларускай рэлігіяй. Уніяцкая царква падпарадкоўвалася Рыму, паслугоўвалася беларускай мовай і скарыстоўвала грэцкія абрады. З 1839 г., калі царызм пачаў рашуча зьнішчаць Унію і гвалтам пераводзіць народ у праваслаўе, вельмі шмат людзей, не хочучы падпарадкоўвацца цару, перайшлі ў каталіцтва. Варожыя сілы падзялілі Беларусь на дзьве паловы. Але памяць пра Унію яшчэ жыла ў народзе ў 1863 г.

Якраз пра гэта, пра вяртаньне ўніяцкай веры і храмаў піша Кастусь Каліноўскі ў "Мужыцкай праўдзе": "Нарабіў нам гэтага ліха, дзяцюкі, цар маскоўскі, ... адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую царкву і пагубіў нас перад Богам навекі; а зрабіў гэта дзеля таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы ня меў зьлітаваньня над намі" ("Мужыцкая праўда", № 6). Уцякаючы ў каталіцтва, беларускі селянін супраціўляўся такім чынам царызму.

І таму, забіваючы паўстаньне, Мураўёў са сваімі паслугачамі перш за ўсё нішчыў самую яго душу — лучнасьць паўстанцаў з імем Божым. І пачалося пасьля 1863 г. гвалтоўнае зачыненьне або нават руйнаваньне касьцёлаў. У канцы 19 ст. былі зачыненыя дзесяткі храмаў і сярод іх у 1864 годзе — Дамініканскі кляштар і касьцёл у Троках, Францішканскі кляштар і касьцёл у Вільні, Бернардынскі кляштар у Слоніме, Кармеліцкі касьцёл у Глыбокім і інш. У 1865 г. зачынілі касьцёл і кляштар у Шчучыне, касьцёл у Пружанах, Дамініканскі касьцёл у Гародні і інш.

Гэткая ж палітыка працягвалася і ў XX ст. — падчас разгулу ваяўнічага атэізму ў 30-я гады і ў часы бюракратычнае барацьбы са спадчынай беларускага народа ў 50—80-я гады.

І таму зараз дзеля ўратаваньня нашых сьвятыняў так неабходна зьвярнуцца да сваіх каранёў, да гісторыі нашых бажніц, сьвятарства і рэлігіі. Перад мастакамі, кампазітарамі, гісторыкамі стаяць вялікія задачы. Нельга забываць, што наша культура, як і ўся еўрапейская культура, стаіць на глыбокім падмурку народа і **Хрысьціянства.**

НАДЗЕЯ ПАШКЕВІЧ

# ДВА АРТЫКУЛЫ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ

Адна з яркіх старонак барацьбы беларускага народа за дзяржаўную незалежнасьць — Слуцкае паўстаньне. Доўгі час у афіцыйнай гісторыяграфіі яно замоўчвалася ці падавалася як лакальны контррэвалюцыйны нацыяналістычны мяцеж. Але ж у апошнія гады затрашчэлі стэрэатыпы і з-пад накінутай схемы паказалася жывое аблічча нашай няпростай, часта трагічнай гісторыі.

Вернемся ў тыя віхурныя гады на Случчыну і паспрабуем ацаніць сітуацыю, абапіраючыся найперш на факты, паспрабуем зразумець процілеглыя бакі, якія сыйшліся ў той час на гэтым кавалку Беларусі.

Адраджэньне пачатку стагодзьдзя моцна закранула Случчыну і адтуль яшчэ да рэвалюцыі выйшаў не адзін сапраўдны змагар за нацыянальную самабытнасьць беларускага народа. Таму ня дзіва, што менавіта ў Слуцку ў 1917 годзе адчынілася першая беларуская гімназія на Беларусі. Працягам гэткае нацыянальнае актыўнасьці можна лічыць утварэньне Беларускага нацыянальнага камітэту Случчыны ў 1919 годзе, які вёў актыўную нацыянальную, культурную і каапэратыўную працу.

Пры ўсталяваньні ў ліпені 1920 году савецкае ўлады, Камітэт быў гвалтоўна распушчаны. Прыпынена была ўсялякая культурная і нацыянальная дзейнасьць. Такім чынам, новая ўлада (згадаем, што тагачаснае бальшавіцкае кіраўніцтва на Беларусі ўвогуле не прызнавала існаваньне беларускага народу) зьліквідавала па сутнасці орган мяйсцовага самакіраваньня, чым настроіла супраць сябе насельніцтва, якое паставілася да новай ўлады як чарговай чужацкай навалы.

Пры адступленьні чырвоных увосень 1920 Беларускі нацыянальны камітэт выйшаў з падпольля і практычна ўзяў цывільную ўладу на Случчыне ў свае рукі. Для падтрыманьня парадку была сарганізаваная беларуская міліцыя. Горад аквечвалі бел-чырвона-белыя нацыянальныя сьцягі. Палякі, якія звычайна прыціскалі ўсялякую беларускую ініцыятыву, гэтым разам глядзелі на гэты стыхійны захоп улады праз пальцы, бо згодна замірэньня з бальшавікамі ў Рызе, дзе без беларусаў вырашаўся лёс Беларусі, Польшча павінна была пакінуць гэтую тэрыторыю.

У гэты ж час у Слуцку фармаваліся кавалерыйскія палкі Станіслава Булак-Балаховіча. Случакі насьцярожана аднесьліся да генерала, які дзеля дасягненьня сваіх мэтаў захаўрусаваў з рускімі белымі атрадамі. Большасьць случакоў прыхільна ставілася да ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на чале з Антонам Луцкевічам.

Тым часам Беларускім нацыянальным камітэтам у валасьцях і вёсках Случчыны былі створаны выбарныя камітэты самакіраваньня (тыя ж "абноўленыя саветы", як на сёньняшні лад), якія агулам утварылі даволі зладжаную дэмакратычную структуру народаўладзьдзя, якая мела падтрымку ў народа і існавала для абароны народных інтарэсаў.

Кульмінацыйным пунктам у дзейнасьці гэтай структуры народнага самакіраваньня трэба лічыць І-ы беларускі зьезд (зьезд сялянскіх прадстаўнікоў) Случчыны, на які сабраліся выбраныя дэлегаты зь вёсак і з самога Слуцка.

Зьезд адбыўся 14—15 лістапада 1920 года. Найбольшую вагу на ім мелі беларускія сацыялісты-рэвалюцыянеры. Рэзалюцыі, прынятыя на зьездзе, і вызначылі далейшыя падзеі, што разгарнуліся ў "Слуцкай рэспубліцы".

Зьезд сялянскіх прадстаўнікоў прыняў рэзалюцыю, у якой найвышэйшай ўладаю на Беларусі лічыў ўладу Беларускай Народнай Рэспублікі. Савецкая ўлада была расцэнена як акупацыйная, якая не прадстаўляла інтарэсы карэннай нацыянальнасьці.

Зьезд абраў "Раду Случчыны" Беларускай Народнай Рэспублікі зь 17 чалавек на чале з У. Пракулевічам, якой перадаў ўладу і даручыў фармаваньне войска. Лозунгі, абвешчаныя на зьездзе, можна лічыць апорнымі пунктамі, на якіх грунтаваўся палітычны светапогляд дэлегатаў. Яны выступалі за "вольную, незалежную, дэмакратычную Беларускую Народную Рэспубліку ў яе этнаграфічных межах", за "беларускае войска", беларускі Ўстаноўчы Сойм", "братэрства ўсіх славянскіх народаў", а таксама за прыярытэт мяйсцовых інтарэсаў, што адбівалася ў даволі рэзка сфармуляваным лозунгу "за рады (саветы — А. Б.) без маскоўскіх камуністаў". Зьезд случакоў быў па-сутнасьці правобразам таго "Устаноўчага Сойму", пра які, як пра орган дэмакратычнае вышэйшае ўлады на Беларусі, марылі дэлегаты.

Рада Случчыны, абраная зьездам, у пераважнай большасьці складалася зь людзей, якія мелі сацыялістычны сьветапогляд і стаялі ў першую чаргу на абароне інтарэсаў беларускага сялянства. Дзейнасьць Рады была накіраваная на арганізацыю цывільных установаў, а таксама на фармаваньне ўласнага войска. Рада цьвяроза ацэньвала палітыку, якую праводзіў пад той час савецкі ўрад на чале з В. Кнорыным, што не прызнаваў ані беларускага народа, ані беларускай мовы; насьцярожана ставіўся да сялян. Згадаем, што тагачасны рабочы клас Беларусі быў беларускім толькі на пятую частку (большасьць складалі яўрэі і рускія). Случакі сур'ёзна рыхтаваліся бараніць свае нацыянальныя і палітычныя ідэалы. Быў накіраваны пратэст Кнорыну супраць намераў Чырвонага войска заняць Случчыну. Але ніхто й ня думаў лічыцца з волевыяўленьнем мясцовага насельніцтва. Узьніклая мінірэспубліка разглядалася як контррэвалюцыйны мяцеж, які падлягаў безумоўнай ліквідацыі. Тым ня менш случакі вырашылі бараніцца і за тры дні сфармавалі з тутэйшых сялян-дабраахвотнікаў і афіцэраў пераважна мясцовага паходжаньня І-ю Слуцкую брыгаду стралкоў войска Беларускай Народнай Рэспублікі, якая складалася з І-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага палкоў (Грозава — вёска на Случчыне) ды коннага адзелку (атраду).

Сяляне падтрымлівалі сваю ўладу. У брыгадзе налічвалася каля пяці тысяч чалавек. Пагодзімся, што для аднаго павету — зусім ня мала. Узбраеньне брыгады было вельмі кепскае. У большасьці не было нават стрэльбаў, ня кажучы ўжо пра артылерыю. Аднак брыгада была сфармаваная на манер рэгулярнай вайсковай адзінкі, нават са сваёй разьведкай і контрразьведкай. За сталіцу паўстанцы абралі мястэчка Семежава, што знаходзілася ў зоне.

У лістападзе адбыліся сутычкі паўстанцаў з рэгулярнымі часткамі Чырвонай арміі. Мясцовае насельніцтва непрыхільна ставілася да "чужынцаў і ўсяляк дапамагала паўстанцам. Аднак, сілы былі няроўныя. 7 сьнежня частка паўстанцаў была разьбіта каля Семежава. Тыя ж зь іх, хто перайшоў мяжу — былі разззброены палякамі. Апынуўшыся між двух агнёў, брыгада была вымушана пакінуць Семежава і адступіць у вёску Грыцэвічы.

На працягу сьнежня дрэнна ўзброеная, не забясьпечаная амуніцыяй і харчаваньнем, брыгада вяла баі зь пераменным посьпехам. У сярэдзіне сьнежня паўстанцы былі адбілі мястэчкі Вызна і Семежава, аднак, ужо 19—20 сьнежня іх выбілі адтуль. Абяскроўленыя паўстанцкія атрады ў канцы сьнежня зьбіраліся ў вёсцы Заастравечча, каля ракі Лані, на другім баку якое стаялі польскія войскі. Рада Случчыны палічыла бесьперсьпектыўным далейшае змаганьне з рэгулярнымі часткамі Чырвонай арміі, якія пераўзыходзілі паўстанцаў і ўзбраеньнем і колькасьцю. 28 сьнежня Слуцкая брыгада паўстанцаў перайшла раку Лань і была раззброеная і інтэрнаваная палякамі. Гэтак песімістычна закончылася яшчэ адна старонка змаганьня беларускага народу за права на самастойнае існаваньне.

Пра неардынарнасьць Слуцкага паўстаньня, якое шмат хто з афіцыйных гісторыкаў жадалі бы выдаць за звычайны контррэвалюцыйны мяцеж, гаворыць і такі факт, што актыўны ўдзел у паўстаньні прыймалі будучы КПЗБ, палітычны сакратар ЦК Язэп Лагіновіч, адзін са стваральнікаў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Сымон Рак--Міхайлоўскі і іншыя. Шмат хто з паўстанцаў увальецца ў Беларускую Рэвалюцыйную Арганізацыю — падпольную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю на тэрыторыі Заходняй Беларусі, многія пойдуць у Грамаду, у Таварыства Беларускай Школы. Яны шчыра жадалі бачыць Беларусь незалежнай, самастойнай, роўнай між роўных краінай, што зусім не ўваходзіла ў планы ні тав. Кнорына і Мяснікова, ні п. Пілсудзкага.

Ідэю незалежнасьці Бацькаўшчыны паўстанцы несьлі ня толькі ў Заходняй, але і ва Усходняй Беларусі. Так, сябра Слуцкае Рады Юры Лістапад працаваў ў 20-я гады настаўнікам на Случчыне. Створаны ім падпольны гурток распаўсюджваў улёткі па ўсім навакольлі Слуцка. Арганізацыю выкрылі, і ў 1926 годзе адбыўся гучны працэс над Ю. Лістападам і ягонаю групай. Абаронцам "лістападаўцаў" на судзе выступаў Цішка Гартны, за сьведку быў пакліканы Якуб Колас, які пэўны час выкладаў на настаўніцкіх курсах у Слуцку... Дзякуючы Цішку Гартнаму, Лістапад дастаў усяго 5 год, астатнія ж — меней.

Многія з паўстанцаў, што засталіся па гэты бок мяжы, у 30-я гады былі рэпрэсаваныя. Але памяць пра паўстаньне жыве. Беларусы на эміграцыі ўрачыста адзначаюць дзень Слуцкага паўстаньня, як адную са спробаў беларускага народа адстаяць правы на сапраўднае дэмакратычнае, народнае самакіраванне.



## БАНДЫТ ЦІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЕРОЙ

Адной з адыёзных асобаў, як яго падае савецкая гісторыяграфія, у нашай мінуўшчыне зьяўляецца генерал Станіслаў Булак-Балаховіч. Фарбы, у якіх малююць генерала, настолькі чорныя, што нат' у вачох крытычна настроеных людзей С. Булак-Балаховіч выглядае авантурыстам, марыянеткаю ў рукох Язэпа Пілсудзкага.

Маю ўвагу Булак-Балаховіч прыцягнуў найперш як аўтар некалькіх вершаў, напісаных па-беларуску на мяжы 20-х гадоў. Ці ня праўда — цікавае спалучэньне — генерал-паэт... А разам з тым захацелася даведацца пра Булак-Балаховіча як найбольш. І выявілася, што наш генерал зусім не такі прастакутны, як яго малююць. Больш таго, складзіся троху інакш палітычная сітуацыя ў той шалёнай віхуры, што куламесіла тады над нашым кавалкам Еўропы, хто ведае — ці не адыграў бы Булак-Балаховіч на Беларусі ролю Я. Пілсудзкага, хроснага бацькі адроджанай, незалежнай Польшчы...

Але менш эмоцыяў, а больш фактаў. Толькі на іх грунце будзем рабіць нейкія высновы. Крыніцамі для мяне былі: кніга А. Грыцкевіча "Вакол "Слуцкага паўстання", Мн., 1987, а таксама часопіс "На чужыне", што выходзіў у Рызе ў пачатку 20-х гадоў, ды іншыя.

Нарадзіўся Станіслаў Булак-Балаховіч на Браслаўшчыне ў невялікім маёнтку Мейшты, што каля Відзаў. Па адукацыі — аграном. Ужо ў 1905, працуючы ў Дзісенскім павеце, займеў у сялянаў мянушку "Бацька", бо быў пасярэднікам у канфліктах паміж сялянамі ды абшарнікамі. Пад час Першай сусьветнай вайны С. Булак-Балаховіч ідзе дабраахвотнікам у Курляндзкі ўланскі полк расейскага войска на Паўночна-заходнім фронце. Там, як "на рэдкасьць адважны конны партызан", атрымлівае афіцэрскія пагоны і даслужваецца да ротмістра — камандзіра партызанскага аддзела (атрада) 2-й Кавалерыйскай дывізіі.

Па сваіх палітычных поглядах, як заўважае прафесар Грыцкевіч, Станіслаў Булак-Балаховіч схіляўся да левых эсэраў. Гэта значыць, стаяў насамперш на баку сялянства. Гэткая ягоная пазіцыя затым і паслужыла асноваю для далейшага разьвязаньня падзеяў.

Зь вясны 1918 Булак-Балаховіч — у Чырвонай арміі, дзе служыць камандзірам 3-га Петраградзкага кавалерыйскага палка. Але бліжэйшае знаёмства з методыкаю "размоваў бальшавікоў зь сялянствам прымусіла Булак-Балаховіча шукаць іншага шляху. Ён наладжвае кантакты з арміяй М. Юдзеніча ў Эстоніі і пераходзіць з палком на яго бок. Пра тое, што гэта было выпакутаванае рашэньне, а не авантура ротмістра, які ссумаваўся па старых парадках, гаворыць адозвы Булак-Балаховіча, у якіх ён зьвяртаўся да сялянства і заклікаў на барацьбу з бальшавікамі, "якія размаўляюць зь сялянамі моваю кулямётаў і штыкоў". Сваю ж палітычную платформу Булак-Балаховіч тлумачыў так: "Я ваюю не за царскую і не за панска-памешчыцкую, а за новую, вольную, дэмакратычную, народную сялянскую працоўную Расію".

Са студзеня 1919 конны партызанскі аддзел "Бацькі" — у складзе паўднёвай групы Паўночна-заходняй арміі, якая падпарадкоўвалася эстонскаму камандаваньню. Неўзабаве Юдзеніч прызначае яго камандуючым 2-га корпусу гэтай жа арміі. Пасьля пасьпяхова праведзеных аперацыяў (захоп Гдова, баі пад Псковам) падпалкоўнік С. Булак-Балаховіч становіцца палкоўнікам, а затым і генерал-маёрам. Але й сярод "белай косьці" пазіцыя генерала, які адкрыта дакляраваў, што ваюе "за зямлю і хлеб для ўсяго народа, за правы працоўных,

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**ВІТАЕМ УСІХ БЕЛАРУСАЎ І ІХ СЕМ'І, УСІХ ХРЫСЬЦІЯН, СА СЬВЯТАМ РАДАСЬЦІ І ВЯСНЫ — ВЯЛІКАДНЕМ. ВЯЛІКДЗЕНЬ — САМАЕ ВЯЛІКАЕ, САМАЕ РАДАСНАЕ СЬВЯТА, СІМВАЛ ПЕРАМОГІ ДАБРА НАД ЗЛОМ І ВЕЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ НАД СІЛАМІ ЦЕМРЫ І СЬМЕРЦІ. ХРЫСТОС УВАСКРОС. ПАКЛІКАЎ НАС ЗА САБОЙ І АСЬВЯЦІЎ ШЛЯХ УСІМ, ХТО ХОЧА ІСЬЦІ ЗА ІМ. ДЫК РАДУЙМАСЯ Ж ЛЮДЗІ!**

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

**І АДКАЖАМ НА ГЭТА ПЕРАМОЖНЫМ КЛІЧАМ:**

**САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!**

# ВЯЛІКОДНЫЯ

### РАДУЙМАСЯ ХРЫСЬЦІЯНЕ

Радуймася, хрысьціяне,
бо Хрыстова з гробу ўстаньне
даравала нам збаўленьне.
Хрыстос васкрос! (3)

Патрыярхі рады сталі,
што ў атхлынях прабывалі,
як Збаўцу свайго даждалі.
Хрыстос васкрос! (3)

І ўбачылі ясногa,
ён адняў моц духа злога,
ім сказаў ісьці да Бога,
Хрыстос васкрос! (3)

З гробу камень адваліўся,
Хрыстос з умёршых збудзіўся
і Марыям аб'явіўся.
Хрыстос васкрос! (3)

Апосталы сабраліся,
што былі ўжо разышліся,
па Хрысьце ўсе смуцячыся.
Хрыстос васкрос! (3)

Мы ўсе разам засьпяваймa,
ўскрашэньне размышляйма,
з граху ўстаць пастанаўляйма.
Хрыстос васкрос! (3)

Хрысьце, праз Тваё ўскрасеньне
дай нам грахоў адпушчэньне,
вечнае душам збаўленьне.
Хрыстос васкрос! (3)

«БОЖЫМ ШЛЯХАМ».
МАЛІТАЎНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ
РЫМ – 1946 г.

### ВЯЛІК СЬВЯТЫ

Вялік, сьвяты нам дзень настаў,
са славай з гробу зазіяў;
Хрыстос васкрос — нам вечны сьвет.
Хрыстос васкрос!

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
на трэці дзень із мертвых устаў.
Ад радасьці ня трэба сьлёз.
Хрыстос васкрос!

Суботня поўнач як зайшла,
зара нядзелі чуць узыйшла,
як адчыніўся насьцеж гроб.
Хрыстос васкрос!

Жанчыны зраньня к гробу йшлі,
і міра цэннае нясьлі,
аж бачаць гроб, — там нехта ёсьць.
Хрыстос васкрос!

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх.
То сьветлы ангел быў з нябёс.
Хрыстос васкрос!

Жанчынам ангел той сказаў:
«Хрыстос ўваскрос, із мертвых устаў,
«Дарма шукаеце тут скрозь.
Хрыстос васкрос!

«Ідзеце дайце знаць аб том
«Усім яго вучаніком
«радасну ангельскую весьць
Хрыстос васкрос!

У царкввох сьпявайце і ў дамох
жыцьцё нам ёсьць на небясох.
Усе весялецеся людзі скрозь.
Хрыстос васкрос!

### УСКРЭСЬНІ

Натальля Арсеньнева

Ён уваскрос,
Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіней смузе над палямі
вісіць вясна
Ён уваскрос.
Ускрос, і зноў на Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусьціш,
благаслаўляе соладзь кроз.
Сяліб раськіданых прысады,
муры няэлічаных вязьніц
і тых,
што пагублялі радасьць
па кроплі кропля й дзень па дні...
Ідзе Хрыстос... Над Ім дугою
ўстае густы блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сьляды на шэрань рос...
Дык прыпадзем
і вусны спалім
на тых сьлядох, што Бог-Хрыстос
губляе, моўчкі йдучы ў далеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усьцяж галосіць нема лёс
няхай крываваць нас і нішчаць —
ускрэсьне Край,
бо й Ён ускрос...
Устань-жа, устань,
Ускрэсьні сяньня
мой Край, як уваскрос Хрыстос!
1953

ГАЗЭТА «ГРУНВАЛЬД» — НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАНЬНЕ І НЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ОРГАНАМ БЕЛАРУСКАГА ЦІ ЭСТОНСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ.

ГРУНВАЛЬД
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА "ГРУНВАЛЬД".
НАШ АДРАС: 200090 ЭСТОНІЯ. ТАЛІН. Аб./Скр. 3290.
РЭДАКТАР Валеры Чыжык
Друкарня "Октообер". Зак. 560 Наклад 30 тыс.
Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі.
Кошт у Эстоніі — 30 кап.
За межамі Эстоніі — 50 кап.